# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**
**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 33 КРАСАВІК — APRIL — 1971 ГОД. 17**

БОЖАЙ МІЛАСЪЦЮ
СЬВЯЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

*Да ўсечаснога Духавенства, Прападобнага Манаства і ўсіх Багалюбных вернікаў на чужыне й на Бацькаўшчыне.*

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

„Я ёсьць уваскрашэньне й жыцьцё,
хто верыць у Мяне, хоць і памрэ,
жыць будзе" (Ін. XI, 25).

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

З году ў год паўтараем мы гэтае прывітаньне. З году ў год у нашых сэрцах уваскрасае Хрыстос, ачышчае й агравае Ласкаю Сваею нашыя душы. Хрыстос Уваскрос! Прагалошваем і радасна вітаем адзін аднаго. У гэтых двух словах колькі радасьці! Колькі ўцехі для кажнага пабожнага хрысьціяніна дачакацца Радаснага Сьвята Хрыстовага Ўваскрошаньня й пачуць у царкве паўтарэньне гэтых слоў! На голас таго прывітаньня разьясьняецца спавітае смуткам аблічча, ясьнеюць сумныя вочы, і родзіцца надзея на лепшую долю.

У гэтым запаўняе нас Сам Уваскросшы Хрыстос; таму словы гэтыя напаўняюць чалавека радасным пачуцьцём, якога немагчыма выказаць словамі, а магчыма толькі адчуць ўсёю духоваю істотаю.

Крыжовы шлях Госпада закончыўся ў цёмнай вузкай пячоры, куды абгорнутае Плашчаніцаю было паложана цела Хрыста. Там за цяжкім каменем і садукейскаю пячаткаю позна ўначы Хрыстос Уваскрос, і Ангел Гасподні перад прыходам жанчынаў Міраносіцаў адваліў камень ад дзьвярэй гробу, каб паказаць месца, дзе ляжаў Хрыстос.

Ніхто ня быў годны бачыць Ягонае Ўваскрошаньне з гробу, бо сьмяротнае людзкое вока не змагло вытрымаць Зьзяючага Сьвятла, калі Ўваскросшы пакідаў ложа сьмерці; і калі, выйшаўшы з гробу, стаў паказвацца людзям, пакуль на саракавы дзень, відавочна для людзей, узьнёсься на Неба, каб сесьці з правага боку Айца ды прыгатаваць месца ўсім, хто верыць у Яго й любіць Яго.

Гэтак адбывалася абяцанае людзям збаўленьне. „Бо так палюбіў Бог сьвет, што Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб кажны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае". (Ін. 3, 16).

Бязьмерная Любоў Бога патрабавала тае Ахвяры, каб задаволіць вечную справядлівасьць, выратаваць людзтва ад грэху й сьмерці, вызваліць сьвет ад пракляцьця й аднавіць людзям страчаную імі годнасьць Сыноў Божых. Але ўсё гэта дадзена нам з умоваю, каб мы ўсёю істотаю верылі ў Госпада й выконвалі Ягоныя Сьвятыя Запаветы. „Хто верыць у Сына, мае вечнае жыцьцё, а хто ў Сына ня верыць, ня ўбачыць жыцьця, і гнеў Божы застанецца на ім" (Ін. 3, 36).

Але ці сучасны сьвет хоча таго вечнага жыцьця? Ці жадае ён яго? Штораз шчыльней хмары засланяюць ад людзей Ціхае Сьвятло Збаўленьня. Сьвет раздваіўся. Госпад кліча: „Прыйдзеце да Мяне ўсе струджаныя й абцяжаныя, і Я супакою вас (Мацьв. XI, 28). А крывавая цемра ўлады антыхрыста падступна апаноўвае людзей, затуманьвае сьветапагляд, заклікае да „зямнога шчасьця", заахвочвае нішчыць адзін аднаго. І кволыя паддаюцца намове антыхрыста ды схіляюцца да гібелі. „І будзеце зьненавіджаныя ўсімі за Імя Маё; адцярпеўшы-ж да канца збавёны будзе". (Марк 13, 13). „Прыйдзеце благаслаўлёныя Айца Майго, й насьлядуйце Ўладарства, прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету" (Мацьв. 25, 34).

Радуймася й памятайма, што нашая будучыня ў вялікай меры залежыць ад таго, ці мы захаваем нашае нацыянальнае адзінства, нашую родную Царкву, ці можа змарнуем гэты наш найдаражэйшы рэлігійна-нацыянальны скарб і, як блудныя сыны, будзем недастойнымі сваіх пабожных і мудрых бацькоў.

Таму, калі мы вітаем адзін аднаго радасным — Хрыстос Уваскрос! — то няхай ня будзе між намі падзелу на сваіх і чужых, на блізкіх і далёкіх, на ахвярных і скупых, а няхай запануе між намі дух Хрыстовае Любові, а тады адчуем Боскія Словы — „СУПАКОЙ ВАМ" і „РАДУЙЦЕСЯ!"

УСЕЧАСНЫЯ АЙЦЫ, І ЎВЕСЬ НАШ БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ! У духу Божым вітаем усіх Вас з Вялікім, Сьветлым і радасным Сьвятам Неба й Зямлі — УВАСКРОШАНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! Няхай Ён, Уладар сусьвету, па Сваім Уваскрашэньні затрыўмфуе ў душах і сэрцах вашых і напоўніць Вас тою радасьцю, тым натхненьнем, якія запанавалі ў душах Жонаў Міраносіцаў, Сьв. Апосталаў і ўсіх верных пасьля незямное весткі: ХРЫСТОС УВАСКРОС! І мы ўсе, падобна ім, натхнённа ўсклікнем: ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Ласка й міласьць Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амін.

Дадзена Лета Божага 1971, месяца красавіка.

Аўстралія, Амэрыка, Канада.

**✠ Зьмірэнны Архіепіскап Сергій**
**✠ Зьмірэнны Архіепіскап Андрэй**
**✠ Зьмірэнны Епіскап Мікалай**

# СЬВЯТОЕ МІРА

У Праваслаўнай Царкве адначасна з Таінствам Хрышчэньня адбываецца й Таінства Мірапамазаньня, пры выкананьні якога, прамаўляючы словы „Пячаць Дара Духа Сьвятога", намазваюцца мірам пэўныя часткі цела. Імём Сьвятога Духа хрышчаны атрымоўвае Дары Сьвятога Духа, якія ўзмоцніваюць яго духовае жыцьцё.

У Сьв. Пісьме няма дакладнага часу, калі было ўстаноўлена Таінства Мірапамазаньня, але ёсьць сьцьверджаньні аб існаваньні яго ў форме ўзлажэньня апостальскіх рук на хрышчаных і спалучэньня з тым дзеяньнем спасланьня ім Ласкі Сьвятога Духа. У Дзеяньнях Сьв. Апосталаў гаворыцца: „Калі-ж я пачаў прамаўляць, зыйшоў на іх Дух Сьвяты, як і на нас напачатку" (Дзн. XI, 15). Або „Ян хрысьціў вадою, вы-ж будзеце хрышчаны Духам Сьвятым. Пачуўшы гэта, супакоіліся ды славілі Бога, кажучы: Відаць, і паганам даў Бог пакаяньне дзеля жыцьця" (Дз. XI, 16-18). „І, як узлажыў Павал рукі на іх, зыйшоў на іх Дух Сьвяты, і пачалі гаварыць рознымі мовамі ды прарочыць. (Дз. 19. 9).

Як толькі пашырылася хрысьціянства, зыход Сьв. Духа на новаахрышчаных чынілі Епіскапы, пакладаючы на іх рукі, гэтак сама гэткае пакладаньне рук Епіскапаў пачало спалучацца з намазаньнем алеем або мірам. У далейшым развоі Сьв. Царквы, у сувязі з тым, што Епіскапы не заўсёды маглі прысутнічаць у часе хрышчэньня, пачалі замест рукапалаганьня Епіскапа намазваць Сьв. Мірам, асьвячаным праз Епіскапа, намазваючы лоб, вочы, ноздры, вусны, вушы, грудзі й ногі.

Апрача Таінства Мірапамазаньня Сьв. Міра ўжываецца ў часе асьвячэньня новых храмаў. Мірам намазваецца Прастол, Антымінс, будынак храму (з усіх чатырох бакоў), і мірам намазвалі цароў у часе каранацыі.

У старым Запавеце была намазана Скінія, таксама намазвалі

Першасьвятароў, Пракокаў, Сьвятороў і Цароў. Дзеля згатаваньня міра ў тым часе ўжывалася: смірна, пахучая карыца, пахучы трасьнік, касія й алей.

У Новазапаветнай Царкве, з часаў апостальскіх, Сьв. Міра гатавалася з шматлікіх пахучых рэчаў, у знак жыватворчых духмянасьцяў шматлікіх дараў Сьв. Духа, што надаюцца праз Мірапамазаньне.

У старыя часы, у Царскай Расеі, Сьв. Міра варылася толькі ў Маскве й Кіеве, і адтуль на запатрабаваньне Епіскапаў рассылалася па дыяцэзіях.

Дзеля згатаваньня Міра ўжывалася каля 30 розных рэчаў. Галоўным-жа складнікам быў праванскі алей, які выціскаўся з пладоў аліўкавага дрэва. Апрача гэтага ўжывалася белае вінаграднае віно, якое ў склад міра не ўваходзіла, але было патрэбнае дзеля працэсу варэньня, каб алей і іншыя складнікі не прыгаралі.

У склад Міра ўваходзяць гэткія пахучыя рэчы:

1. Стрыкаса — засушаны сок з надрэзанай кары дрэва, якое расце ў Арабіі, Сырыі й на Яве.
2. Ладан расьлінны Сыямскі — так сама засушаны сок з дрэва на абтоках Борнэо, Яве й Суматры.
3. Ладан: звычайны белы засушаны сок, што выцякае з сьцябла расьлін заўсёды зялёных кустоў на абтоках Крыце, Кіпры і ў Арабіі.
4. Ладан: звычайны чорны расьлінны, і выпрадукоўваецца як папярэдні.
5. Масьціка — выцякае з надрэзаў кары расьлінаў на абтоках Архіпелагу, на Хіосе, у Грэцыі і ў Пaўднёвай Афрыцы.
6. Сандарак — смала жоўтага колеру ў крышталі ў выглядзе зярняткаў; з Усходняй Індыі.
7. Ружовыя кветкі — пялёсткі з мускатнай, дамаскай і чырвонай ружаў.
8. Базыліка — расьце ў дзікім стане ў паўдзённай Эўропе. Пах травы вельмі прыемны.
9. Браткавы корань белы — расьце ў паўдзённай Эўропе.
10. Імбірны корань — шышкі з кораня імбіра, з Усходняй Індыі, Захадняй Індыі й Хінаў.
11. Ірны корань — расьце ў Эўропе, Азіі й Амэрыцы.
12. Калганны корань — карнявы стрыжань, з абтокаў Індыйскага архіпелагу й Хінаў.
13. Кардамон — бацькаўшчына яго — Ява, Маляйскі архіпелаг.
14. Мускатны алей — расьліна расьце на Малукскіх і Антыльскіх абтоках.
15. Бальзам Пэрувaнскі — здабываецца праз выварваньне кары, лючак і лісткоў бабковага дрэва, у цэнтральнай Амэрыцы.
16. Венэцыянская тэрпэнтына — здабываецца пры перагонцы Венэцыянскага скіпідару.
17. Бэргамотавае масла — здабываецца праз прасаваньне скурак сьвежых пладоў памаранчавага дрэва.
18. Лімонавае масла — прадукуецца ў Італіі праз прасаваньне скурак сьвежага лімону.
19. Лявандавае масла — прадукуецца ў Паўдзённай Францыі праз фэрмэнтацыю кветак лявaнды з вадою.
20. Гвазьдзічнае масла — здабываецца праз перагонку гвазьдзікаў з вадою.
21. Масла Багародзкае травы (тым'ян паўзучы), здабываецца праз перагонку травы з вадою.
22. Ружавае масла — здабываецца з ружаў.
23. Размарынавае масла здабываецца з лісткоў размарыну.
24. Карычнае масла — здабываецца з кары хінскае карыцы.
25. Лігнародзійнае масла — здабываецца з каменнага вугальля.
26. Майаранавае масла — з травы майарану, якая расьце ў паўдзённай Эўропе.
27. Памаранчавае масла — атрыманае з сьвежых памаранчавых кветак.
28. Мускатнае масла густое — здабываецца ў Усходняй Індыі праз выціскаваньне з мускатнага насеньня.

Падрыхтова ўсіх рэчаў, патрэбных для Міра, пачынаецца з Крыжапаклоннага тыдня Вялікага Посту. У сераду а 8 гадзіне рана ў асобным пакоі адпраўляецца Малое асьвячэньне вады й акрапляюцца ўсе рэчы, патрэбныя для міраварэньня. Пасьля гэтага робіцца настой парашкоў: стрыкасы, ладану сіямскага, ладану звычайнага, белага й чорнага; пахучыя травы, кветкі ружаў і карэньні залiваюцца вараным маслам, кажная рэч у асобнай банцы, і ставяцца ў цёплым месцы на два тыдні. Урачысты акт міраварэньня пачынаецца зрана ў панядзелак Страснога Тыдня. Напярэдадні ў міраварны пакой пераносяцца ўсе рэчы, патрэбныя для міраварэньня. А гадзіне 8 рана Мітрапаліт або Архіепіскап у асысьце старэйшага духавенства ў Міраварным Палацы адпраўляе чын малога асьвячаньня вады, пасьля чаго, пакрапіўшы ўсе рэчы і ўліўшы трохі Сьв. вады ў катлы, багаслаўляе ерэяў і дыяканаў выліць масла ў віно. Потым Мітрапаліт або Архіепіскап сам запальвае пад катламі агонь і пачынае чытаць Сьв. Эвангельле, якое чытаюць далей сьвятары. Чытаньне прадоўжваецца праз увесь час міраварэньня, а ерадыяканы, спэцыяльна прызначаныя, праз усе дні міраварэньня мяшаюць масла й віно дрыўлянымі вясельцамі. У Аўторак рана перасыпаюцца ў катлы з банкаў кветкі ружаў, травы, й ладаны, а так

сама масьціка й сандарак. У вялікую Сераду апрача віна рана ўліваюцца настойкі з кветак траў, тэрпэнтына венэцыянская, мускатнае густое масла й пэруванскі бальзам.

Пасьля заканчэньня варэньня ўсё, што было ў катлох, пераліваецца ў дзьве сярэбраныя кадушкі, і калі мешаніна застыне, уліваецца пахучы алей.

Прыгатаванае Міра разьліваецца ў 32 сярэбраныя пасудзіны.

У Вялікі Чацьвер, перад Сьв. Літургіяй, пасьля аблачэньня Мітрапаліта, усё духавенства начале з Мітрапалітам ідуць з Хросным ходам да Мiраварнага Палацу й пераносяць Міра ў Сабор, ставяць яго ў Алтары, пры Ахвярніку. У часе Вялікага Ўваходу пераносяць пасудзіны з Мірам на Прастол. Пасьля прогаласу — І няхай будзе міласьць Вялікага Бога й Спаса нашага... — Мітрапаліт абыходзіць усе пасудзіны, багаслаўляючы іх, пасьля чаго чытае малітву на Асьвячаньне Міра. Па асьвячаньні пасудзіны з Мірам зачыняюцца й пячатаюцца.

Пры заканчэньні Сьв. Літургіі Міра пераносіцца ў спэцыяльнае Мірасховішча, адкуль на запатрабаваньне Епіскапаў, рассылаецца па Епархіях.

## СУЧАСНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

Ад нядаўных часоў сталі пашырацца чуткі аб падрыхтове да 8-га Ўсяленскага Праваслаўнага Сабору. Сёлета, у сакавіку, зь ініцыятывы Ўсяленскага Патрыярха Атэнагора, у Швайцарыі мае адбыцца нарада ў справе падрыхтовы да Сабору. Дзеля гэтага варта прыгадаць, хоць у агульных рысах, мінулае й сучаснае Праваслаўнае Царквы.

У часе Ўсяленскіх Сабораў*) уфармаваліся самастойныя Цэрквы: Канстантынопальская, Антыяхійская, Александрыйская, Ерусалімская й Рымская з Патрыярхамі начале. У выніку рознага тлумачэньня некаторых догмаў хрысьціянскае веры, нязгоды Патрыярхаў, у 1054 годзе стаўся падзел Хрысьціянскае Царквы на Ўсходнюю й Заходнюю. Заходняю, ці Каталіцкаю, назвалася Царква Рымская. З чатырох Цэркваў, ці Патрыярхіяў, найважнейшае значаньне ў развоі Праваслаўнае Царквы мела Патрыярхія Канстантынопальская. Патрыярхіі — Антыяхійская, Александрыйская й Ерусалімская падпалі пад уладу магамэтанскіх народаў, і цяпер становяць нібы цень даўнае іхнае славы.

---

*) Усяленскіх-Сусьветных. Праваслаўная Царква прызнае 7 Усяленскіх Сабораў: 1) у 325 годзе ў Нікеі; 2) 381 г. у Канстантынопалі; 3) 431 г. у Эфэсе; 4) 451 г. у Халкедоне; 5) 553 г. у Канстантынопалі; 6) 691 г. там-жа; 7) 787 г. у Нікеі.



Пазьней утварыліся самастойныя Цэрквы, ці Патрыярхіі: Баўгарская, Сэрбская, Расейская й Румынская. Таксама ў цягу развою Царквы ўтварыліся Цэрквы Аўтакефальныя, самастойныя, з правячымі Архіепіскапамі або Мітрапалітамі.

### ПАТРЫЯРШЫЯ ЦЭРКВЫ.

#### Канстантынопальская.

У палове шостага веку Канстантынопальскаму Патрыярху быў прызнаны назоў „Усяленскага", як першага з пяцёх, з увагі на вялікае гістарычнае значаньне Канстантынопаля, ці Царгорада. Аўтарытэт Усяленскага Патрыярха, як у даўныя часы, так і ў сучасьнасьці прызнавалі й прызнаюць, як Цэрквы аўтакефальныя, так і Патрыяршыя, за выняткам можа Патрыярхіі Маскоўскай.

У 1453 годзе Канстантынопаль падпаў пад уладу Турэччыны. Але Патрыяршы Пасад ня быў зьліквідаваны. Патрыярх быў ня толькі кіраўніком Царквы, але сярод хрысьціянскага жыхарства меў уплыў у справах адміністрацыйных. Гэты ўплыў сягаў да Баўгарыі, Сэрбіі й Румыніі.

З 1923 году, па вялікай рэформе ў Турэччыне, дзейнасьць Патрыярха была абмежана толькі справамі царкоўнымі. У Царкве ўся ўлада належыць Патрыярху й Сыноду, якім падлягаюць 4-ры Епархіі. Лік вернікаў дакладна няведамы, але невялікі. Сядзіба Патрыярха — Канстантынопаль, ці патурэцку Істамбул. Цяперашні стан Патрыярха цяжкі. Турэцкі ўрад рад-бы зусім пазбыцца яго й выселіць з Істамбулу.

Сучасны Патрыярх Атэнагор — прыхільнік зьяднаньня ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў, а таксама зьяднаньня з Царквою Рыма-Каталіцкаю.

#### Антыяхійская.

Вернікі гэтае Царквы — амаль выключна арабы. Налічваецца іх да 350 тысячаў, і жывуць яны ў межах дзяржаваў — Сырыі й Лівану. Сядзіба Патрыярха — Дамаск. Усімі справамі кіруе сам Патрыярх. Ён узначальвае Сынод і кіруе Царквой, якая складаецца з 4-ох Епархіяў. Вышэйшае сьвятарства — грэкі, ніжэйшае арабы. На Антыяхійскага Патрыярха мае ўплыў Маскоўская Патрыярхія праз матарыяльную дапамогу.

#### Ерусалімская.

Гэта адна з найменшых Цэркваў. Складаецца яна з 15-ці парафіяў. Вернікаў блізу 50 тысячаў. Патрыярх і вышэйшае сьвятарства — грэкі, вернікі й ніжэйшае сьвятарства — арабы. Доля гэтае Патрыярхіі цесна зьвязана з доляю Палестыны — Сьв. Зямлі.

У часы крыжацкіх паходаў Ерусалімская Царква больш за 150 год бытавала пад уладай крыжаносцаў.

Да патрыяршага Пасаду належыць апека над памятнымі мес-

цамі Сьв. Зямлі. Паломніцтвы й ахвяры становяць пераважна крыніцу матарыяльнага існаваньня Патрыярхіі. Цяперашняе становішча ўскладняецца з прычыны змаганьня арабскіх дзяржаваў з Ізраілем. Падчас апошняе вайны ў 1967 годзе былі зьнішчаны некаторыя сьвятыні. Робяцца захады й рэалізуюцца адбудовы некаторых сьвятыняў.

**Александрыйская.**

Адна з найстарэйшых цэркваў. Паводля паданьня, заснавальнікам яе быў сьв. Апостал і Эвангелісты Марк. Да гэтае Царквы належала й Царква Абісынская, якая здабыла самастойнасьць ужо ў нашыя часы. Цяпер вернікаў каля 200 тысячаў у 4-х Мітраполіях. Сядзіба Патрыярха — Каір. Раней царскі расейскі ўрад даваў паважную матарыяльную падтрымку. Коштам гэтага ўраду была пабудаваная праваслаўная царква ў Каіры й палац для Патрыярха. У 1968 годзе была пасьвячаная ў Каіры вялікая царква, пабудаваная коштам ураду Насэра.

**Баўгарская.**

Баўгарская Патрыярхія была абвешчаная пад канец 9-га стагодзьдзя, у часы Баўгарскага цара Сымона. У 1019 годзе Баўгарыя падпала пад уладу Бізантыі, але Царква захавала сваю аўтакефалію. У канцы 12-га стагодзьдзя частка Баўгарыі вызвалілася ад Бізантыі. Была абвешчана незалежнасьць гэтае часткі. У сталіцы яе — Тырнава — была заснавана Патрыяршая Катэдра. Такім чынам, на абшарах, заселеных Баўгарамі, утварыліся дзьве самастойныя Цэрквы: у частцы падбізантыйскай, з цэнтрам у месьце Орхідзе, і ў частцы незалежнага Баўгарскага Гаспадарства, з цэнтрам у месьце Тырнава. У 1393 годзе незалежная частка падпала пад уладу Турэччыны, і Патрыярхія была зьліквідаваная, а Царква падпарадкавана Канстантынопальскаму Патрыярху. Другая частка, што была пад Бізантыяй, аставалася незалежнай да 1767 году, калі канчальна была падпарадкавана Канстантынопальскай Патрыярхіі.

У канцы 18-га стагодзьдзя ў Баўгарыі пачынаецца нанава змаганьне за аднаўленьне царкоўнае самастойнасьці. У выніку быў утвораны Баўгарскі Экзархат. Канстантынопальская Патрыярхія ня прызнала незалежнае Баўгарскае Царквы й абвесьціла яе схізмай. І толькі ў 1945 годзе схізма была зьнятая, а ў 1953 годзе адбылася інтранізацыя Баўгарскага Патрыярха, былога Мітрапаліта Кірылы.

Лік праваслаўных у Баўгарыі — да 6-ці міліёнаў. Царква падзелена на 12 Мітраполіяў. Патрыярх і Мітрапаліты складаюць Сьв. Сынод. У Сафіі знаходзіцца Духоўная Акадэмія, а ў Чарапіскім манастыры Духоўная Сэмінарыя.

**Сэрбская.**

Незалежнае Архіепіскапства ў Сэрбіі было ўстаноўлена ў 13 стагодзьдзі. У 1346 годзе Сабор Епіскапаў у Скоплі выбраў Архіепіскапа Іанікія першым Патрыярхам. Усяленскі Патрыярх ня прызнаў Патрыярха Іанікія й адлучыў яго ад Царквы разам з усім Сэрбскім народам. У 1389 годзе Сэрбія была падбіта Турэччынай і стала ёй падуладнай. Але Патрыяршы Пасад захаваўся да 1766 году Толькі па сьмерці Патрыярха Калініка Сэрбская Царква была падпарадкавана Канстантынопальскаму Патрыярху.

У 1878 годзе, ужо ў незалежным Сэрбскім Гаспадарстве, была адноўлена аўтакефалія. Па першай Сусьветнай вайне быў пастаўлены Патрыярх Сэрбскае Царквы і ў 1922 годзе атрымаў прызнаньне Усяленскага Патрыярха. Патрыяршая сядзіба — у Белградзе. Вернікаў у Царкве блізу 7 міліёнаў.

**Маскоўская.**

Хрысьціянства на Маскоўшчыне пачало пашырацца з паўдня, з Кіеўскай Русі. Да 13-га веку сама Масква ня мела вялікага значаньня, а пачала ўзрастаць, стаўшы сталіцаю Вялікага Княства, а потым сталіцаю Маскоўскага Царства.

Патрыяршы Пасад быў устаноўлены ў 1589 годзе й атрымаў прызнаньне Усяленскага Патрыярха. Але цар Пётра Першы ў 1721 годзе зьліквідаваў Патрыярхію й устанавіў Сьвячэнны Сынод. Да Сыноду быў прызначаны Обэр Пракурор, які быў царовым „вокам і вухам" і прызначаўся царамі. Так трывала да 1918 году, калі быў скліканы ў Маскве Усерасейскі Праваслаўны Сабор, і была адноўленая Патрыярхія.

У 1945 годзе, з волі Сталіна, быў скліканы Памесны Сабор у Маскве, на якім быў прыняты раней падрыхтаваны праект „Кіравецтва Рускай Праваслаўнай Царквы". Гэта была нібы канстытуцыя Царквы ў умовах савецка-камуністычнага ладу. Падобна, на гэтай „Канстытуцыі" апіраецца цяперашняе нутранае й вонкавае жыцьцё Маскоўскае Патрыярхіі. Фактычна, не Патрыярх і Сынод кіруюць Царквою, але „Совет по делам Русской Православной Церкви при Совете Министров СССР".

У Сынодзе створаны „Аддзел вонкавых справаў". Праз гэты аддзел Маскоўская Патрыярхія стараецца рабіць уплыў на іншыя праваслаўныя Цэрквы.

Колькі дзейных Епархіяў, Парафіяў, а таксама колькі вернікаў у Царкве, нікому ня ўдасца падлічыць. Храмы разбураліся, духавенства зьнішчалася, мільёнамі гіблі вернікі.

І калі прадстаўнікі Маскоўскае Патрыярхіі прыехаўшы ў Заходні вольны сьвет, цьвердзяць, што ў СССР поўная свабода рэлігіі, а храмы закрываюцца таму, што вернікі самі выцураюцца Царквы, што абсалютна разыходзіцца з праўдаю, то ніяк нельга ўстанавіць, што важней цяперашняму кіравецтву Маскоўскае Патрырхіі: ці цар-

коўна-рэлігійная місія, ці інтарэсы бальшавіцкае імпэрыі.

**Румынская.**

Самастойнай Румынская Праваслаўная Царква сталася ў пачатку 20-га стагодзьдзя. Пасьля далучэньня Малдавіі й Валохіі ў адно гаспадарства, была абвешчаная незалежнасьць новага гаспадарства — Румыніі — ў 1878 годзе. У гэты-ж час, за згодаю Усяленскага Патрыярха, была прагалошаная Аўтакефалія Румынскай Праваслаўнай Царквы, а ў 1925 годзе ўстаноўлены Патрыяршы Пасад.

Да часу, пакуль Румынія сталася сатэлітам СССР, налічвалася там 13-ць мільёнаў праваслаўнага жыхарства. Царква была падзелена на 18 Епархіяў. Па сьмерці Патрыярха Нікадыма ў 1948 годзе быў выбраны на Патрыярха малады манах Юстыніян. З гэтага часу Румынская Царква, як і Маскоўская, сьціснула кантралюецца камуністычным урадам і знаходзіцца пад ціскам гэтага ўраду.

**Абісынская.**

Адна з найстарэйшых Цэркваў. Згодна пераказаў, пашыральнікам хрысьціянства ў Абісыніі быў Апостал Піліп. Ужо ў 4-ым стагодзьдзі быў пасьвячаны ў Епіскапы Фрумэнтыс і пастаўлены на Мітрапаліта. Чын высьвячэньня праводзіў Патрыярх Александрыйскае Царквы, у юрысдыкцыі якога Абісынская Царква знаходзілася да 1956 году. Сталася незалежнай, дзякуючы стараньням Абісынскага цара Гайлі-Салясьсе. Багаслужба пераложана з старажытнай царкоўнай мовы на сучасную жывую.

Галаве Царквы падлягаюць 14 Мітрапалітаў, 5 Епіскапаў і 170 тысячаў сьвячэнікаў. Царкоўная абрадавасьць крыху розьніцца ад іншых хрысьціянскіх. Некаторыя абрады даўняга жыдоўскага паходжаньня.

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ АЎТАКЕФАЛЬНЫЯ ЦЭРКВЫ.

**Грэцкая, або Эладзкая.**

Грэцкая Царква ад часоў ейнага заіснаваньня ўсьцяж аж да 30-х гадоў 19-га стагодзьдзя належала да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха, ад якога й была дадзена аўтакефалія ў 1850 годзе, калі, вызваліўшыся ад Турэччыны, Грэцыя стала незалежнай. Царкву ўзначальвае Архірэйскі Сынод у складзе 32-х Мітрапалітаў і Епіскапаў пад главенствам Першаерарха Архіепіскапа. У Грэцкай Царкве сан Архіепіскапа вышэйшы за сан Мітрапаліта. Сядзіба Архіепіскапа ў Атэнах. Царква падзелена на 66 Епархіяў. Лік вернікаў сягае да 8-ёх мільёнаў.

Напрацягу ўсяе сваё гісторыі Грэцкая Царква мела й мае лучнасьць з Усяленскім Патрыярхам. Цяперака адносіны між Патрыярхам і кіравецтвам Царквы досыць халодныя. Вышэйшае Духавенства Грэцкае Царквы ўважае сябе за абаронніка чысьціні праваслаўя й няпрыхільна ставіцца да актыўнае супрацы Патрыярха Атэнагора з сусьветнаю Радаю Цэркваў і да ягонай экуменічнай дзейнасьці.

**Кіпарская**

Царква вядзе свой пачатак ад Апостальскіх часаў. Даўжэйшы час яна належала да Антыяхійскага Патрыярха. У часы крыжовых паходаў востраў Кіпар быў пад уладаю лаціньнікаў. У 1570 годзе востравам завалодалі туркі; пры іхным панаваньні Кіпарская Царква сталася самастойнай, аўтакефальнай. Лік вернікаў блізу 350 тысячаў. Царква складаецца з 4-х Епархіяў і кіруецца Сынодам, які выбірае Першаерарха-Архіепіскапа. Цяперашні Архіепіскап Макарыёс ведамы ўсяму сьвету, як абароньнік грэцкага праваслаўнага насельніцтва. Ён-жа Прэзыдэнт Кіпарскага Ўраду.

**Грузінская.**

Адна з найстарэйшых Цэркваў. Хрысьціянства ў Грузіі пашырыла ў 4-м стагодзьдзі Сьв. Ніна, грачанка родам з Кападакіі. Заснаваная Царква спачатку належала да Антыяхійскага Патрыярха. У 5-ым стагодзьдзі яна сталася самастойнай.

Пасьля акупацыі Грузіі праз Расею, на пачатку 19-га стагодзьдзя, Грузінская Царква была далучана да Маскоўскай Царквы. У 1917 годзе, калі Грузія была вызваліўшыся ад Расейскае улады, на Памесным Саборы Грузінскае Царквы быў выбраны Галавою Царквы Епіскап Кірыён. Цяпер пры камуністычнай уладзе Царква мае шмат бяды ад гэтага рэжыму. Лік вернікаў каля 2-х мільёнаў. Большасьць Епархіяў, якіх магло-б быць да 15-ці, не абсаджаны архірэямі.

**Албанская.**

Аўтакефальнаю Албанская Царква сталася ў 1937 годзе калі атрымала прызнаньне Ўсяленскага Патрыярха. Да другое сусьветнае вайны ў Албаніі было да 250 тысяч вернікаў і да 400 парафіяў. Цяпер, пры камуністычнай ўладзе, праваслаўныя хрысьціяне церпяць уціск і ганеньне. Праваслаўны сьвет мала што ведае пра стан гэтае Царквы й пра лік вернікаў.

**Чэхаславацкая**

Пасьля першае сусьветнае вайны ў Чэхаславаччыне існавалі паасобныя грамады праваслаўных вернікаў. У дваццатых гадох гэтага стагодзьдзя распачаўся там жывейшы рух сярод праваслаўных, і Епіскап Гаразд узначаліў Чэскую праваслаўную Царкву. У 1923 годзе Ўсяленскі Патрыярх надаў Чэскай Праваслаўнай Царкве аўтакефалію.

Па другой сусьветнай вайне, пад ціскам Маскоўскай Патрыярхіі кіравецтва Чэскай Праваслаўнае Царквы было зрэфармована. Апрача Праскае Епархіі былі зарганізаваныя яшчэ тры Епархіі. У 1951 годзе Маскоўскі Патрыярх падпісаў акт наданьня Чэскай

Праваслаўнае Царкве аўтакефаліі, без паразуменьня з Усяленскім Патрыярхам і іншымі Цэрквамі.

**Праваслаўная Царква ў Польшчы.**

У часы незалежнае Польшчы, па першай сусьветнай вайне, у Польскай дзяржаве была створаная Мітраполія, асноваю якое сталіся Епархіі: Віленская, Горадзенская, Палеская, Валынская. Тэрыторыі гэтых Епархіяў увайходзілі ў склад былой Літоўскай Мітраполіі, якая абыймала бязмала ўсе землі, заселеныя Беларусамі, якія у той час называліся Літвінамі. Зусім натуральным было стварэньне з успомненых 4-х Епархіяў Мітраполіі.

На захады Мітрапаліта Дыянізага й Польскага Ўраду, Усяленскі Патрыярх Грыгор 7-мы й ягоны Сынод „Томасам" ад 13 лістапада 1924 году прызналі аўтакефалію Праваслаўнай Царкве ў Польшчы.

Па другой сусьветнай вайне, пры зьмене палітычнай сытуацыі й пры зьмене дзяржаўных межаў, была праведзена рэформа кіравецтва Царквы. Мітрапаліт Дыянізы быў адсунуты. Было створана таксама 4-ы Епархіі з лікам вернікаў да 150 тысячаў. Маскоўскі Патрыярх Аляксей, уневажняючы „Томас" Усяленскага Патрыярха з 1924 г., ад сябе надаў аўтакефалію Праваслаўнай Царкве ў Польшчы. Няпраўнасьць і супярэчнасьць гэтага чыну з кананічнай дзейнасьцю, як у Праваслаўнай Царкве ў Польшчы, так у Чэхаславаччыне, адзначыў Усяленскі Патрыярх Атэнагор у сваім лісьце з 24. 6. 1970 году.

**Украінская Праваслаўная Царква ў Вольным Сьвеце.**

Украінская Праваслаўная Царква ў вольным сьвеце мае тры Цэрквы — у Амэрыцы, Канадзе й Эўропе. Яны маліцьвена аб'яднаныя, аднак ня твораць аднае Царквы. Як мы даведваемся, цяпер вядуцца перамовы паміж гэтымі трыма Цэрквамі аб спалучэньні ў адну Царкву. Выказваецца ідэя стварэньня Украінскай Праваслаўнай Патрыярхіі.

**Праваслаўная Царква ў Амэрыцы.**

Гэта Мітраполія Расейскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы. 10 красавіка 1970 году яна атрымала „Томас" ад Маскоўскае Патрыярхіі на аўтакефалію й прыняла назоў „Праваслаўная Царква ў Амэрыцы". Яна налічвае каля 360 прыходаў і блізу 750 тысяч вернікаў. Узначальвае Царкву Мітрапаліт Ірыней, сядзіба якога знаходзіцца ў Нью Ёрку.

**Праваслаўная Царква ў Японіі.**

Царква належала да Расейскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, але ў часе перамоваў гэтае Царквы з Маскоўскаю Патрыярхіяю, Праваслаўная Царква ў Японіі 10 красавіка 1970 г. атрымала аўтаномію ад Маскоўскага Патрыярха. Узначальвае Царкву Мітрапаліт



Уладзімер; сан мітрапаліта атрымаў у Маскве.

**Расейская Праваслаўная Зарубежная Царква.**

Мітраполія гэтае Царквы знаходзіцца ў Нью Ёрку. Сядзіба Мітрапаліта Філарэта Нью Ёрк, ЗША. Епархіі гэтае Царквы знаходзяцца ў ЗША, Канадзе, Паўднёвай Амэрыцы, Аўстраліі, Эўропе й Афрыцы.

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на Чужыне.**

У гэтым годзе прыпадаюць 680-ыя ўгодкі заснаваньня ў 1291 годзе Літоўскае (Беларускае) Мітраполіі з прызначаным Усяленскім Патрыярхам Мітрапалітам Тэафілам. Сядзібай Мітраполіі была тагачасная сталіца Наваградак. Ад гэтага часу бярэ свае пачаткі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Ужо у 1317, 1327, 1329 г. прадстаўнікі Наваградзкай Мітраполіі прымаюць удзел у нарадах Патрыяршае Рады. Мітрапаліты прызначаліся Канстантынопальскім Патрыярхам. Але ўжо у 1414 годзе Памесным Саборам Наваградзкай Мітраполіі, 15 лістапада ў Наваградку пастаўляецца мітрапалітам Грыгор Цамблак, і ад гэтага часу ўсе наступныя мітрапаліты для Літоўскае Праваслаўнае Царквы пастаўляюцца незалежна ад Канстантынопальскага Патрыярха, але Патрыярхам прызнаюцца. Такі стан трывае да поўнае акупацыі Беларусі Расеяй у 1792-1795 г., калі Беларуская Праваслаўная Царква была сілком падпарадкаваная Маскоўскаму Сыноду.

Пасьля рэвалюцыі ў 1922 годзе быў склікаsuccessful ў сталіцы Менску Сабор Праваслаўнае Царквы, які абвесьціў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. У выніку бальшавіцкага тэрору шмат удзельнікаў Сабору, а перадусім вышэйшае сьвятарства з Мітрапалітам Мэлхісэдэкам, былі арыштаваныя й загінулі на засланьні, а царкоўнае жыцьцё ліквідавалася.

Падчас нямецкае акупацыі ў 1942 годзе быў скліканы ў сталіцы Менску Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор, які абвесьціў Беларускую Аўтакефальную Царкву. Перад новаю акупацыяй савецкіх войскаў у 1944 годзе, ўсе Епіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы выехалі на захад з досыць вялікай колькасьцяй вернікаў. Праваслаўныя Беларусы пачалі арганізаваць свае Парафіі БАПЦарквы.

У травені 1946 году, знайходзячыся у Заходняй Нямеччыне, прарасейска настаўленыя епіскапы перайшлі да юрысдыкцыі Расейскай Зарубежнай Царквы, супраць волі свае паствы й бяз паствы. Пазасталае сьвятарства з вернікамі ўчынілі захады да новага афармленьня кіравецтва Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У 1949 г. новае кіравецтва было створанае пры дапамозе Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы зь Епіскапамі Сергіем і Васілём. Цяпер БАПЦаркву узглаўляюць: Архіепіскап Сергей —

у Аўстраліі, Архіепіскап Андрэй — у ЗША, і Епіскап Мікалай — у Канадзе.

Аб стане царкоўнага жыцьця на Беларусі няма пэўных вестак. Невядома, колькі засталося ацалелых цэркваў і які ёсьць стан духавенства.

---

Як мы бачым з гэтага кароткага агляду Праваслаўных Цэркваў, некаторыя зь іх сталіся аўтакефальнымі, але ня былі прызнаныя Ўсяленскім Патрыярхам, і гэтыя намаганьні трывалі цэлыя вякі. Некаторыя Цэрквы маюць зусім невялікую колькасьць вернікаў. Баўгарская Царква доўгія гады бытавала ў схізьме, а цяпер сталася патрыяршай.

Маскоўская Патрыярхія, незважаючы на кананічныя падставы, абдароўвае аўтакефаліяй Цэрквы без паразуменьні з Усяленскім Патрыярхам. Гэтым дзейнічае на падрыў аўтарытэту Ўсяленскага Патрыярха й робіць раскол у Царкве, праводзіць вельмі актыўную дзейнасьць сярод аўтакефальных Цэркваў, намагаючыся зьдзейсьніць даўнейшыя мары Масквы, стацца першай. Яе бязумоўна падтрымлівае бальшавіцкі Урад.

Пры такіх абставінах нельга пакладаць вялікіх надзеяў на будучы 8-мы Ўсяленскі Сабор, калі паважны лік дэлегатаў можа, і пэўна будзе, праводзіць дэструкцыйную работу. Усяленская Праваслаўная Царква знаходзіцца ў вялікай небясьпецы. Ёй пагражае арганізаваны наступ атэістычнага камунізму і яму ў дапамогу дзейнічае Маскоўская Патрыярхія, падрываючы асновы Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы.

З надзеяй на ласку Божую будзем верыць, што Ўсяленская Царква, як Царква Хрыстовая, пераможыве гэтыя беды й моц пякельная не адолее Яе.

## ПАРАФІЯ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ, НЬЮ ДЖЭРЗІ

Дзейнасьць Парафіі ў 1970 годзе праводзілася паводля ўложанага пляну Парафіяльнае Рады. Наведваньне Багаслужбаў прыхаджанамі было нармальнае, як і папярэднімі гадамі. У часе хваробы настаяцеля а. Васіля Кендыша, ад пачатку красавіка да верасьня, абслугоўваў Парафію а. Віктар Войтанка. Пры Парафіі нармальна й паводля пляну працавала нядзельная школа. Вучыцелямі былі — інж. Васіль Русак (беларусаведа) й сп. Уладзімір Сьлюка (Закон Божы).

29-га сакавіка Парафію наведаў Уладыка Мікалай і адправіў Сьв. Літургію ў суслужэньні настаяцеля прыходу а. Васіля Кендыша. Парафіяне шчыра віталі Уладыку разам з настаяцелем і глыбока былі кранутыя ўрачыстай службай і прачулым словам Уладыкі. Пасьля Літургіі адбыўся банкет у чэсьць дарагога Архіпастыра з шматлікімі прамовамі й мнагалецьцямі.

31 травеня а. Віктар адслужыў Паніхіду па сьв. пам. Прэзыдэнту БНР Міколе Абрамчыку. Парафіяне вельмі глыбока адчулі гэтую вялікую





**У першым радзе: айцец Васіль Кендыш, М. Войтанка, Анна Лук'янчык.**
**У другім — зьлева: У. Сьлюка, М. Януш, В. Русак, П. Беляец, А. Лысюк.**

страту ахвярнага й заслужанага палітычнага змагара за паняволеную Беларусь.

17-га чырвеня Парафія прыняла ўдзел у пахавінах, сьв. пам. Уладыкі Васіля. Гэтая раптоўная страта любага Архіпастыра выклікала глыбокі жаль, і амаль уся Парафія прыняла ўдзел у ягоным апошнім падарожжы на вечны супачынак. Магіла Уладыкі рупліва даглядаецца і ўпрыгожваецца, а таксама ўсе памінальныя Багаслужбы адбываюцца пры Ягонай магіле.

5-га верасьня прадстаўнікі Парафіі, з настаяцелем а. Васілём Кендышам прымалі ўдзел у Епархіяльнай нарадзе, якая адбывалася ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.

Гаспадарчыя справы Парафіі:

1) Праведзены рэмонт гаража, які будзе ўжываны на склад парафіяльнае маёмасьці.

2). Паложаны цэмэнтовы ходнік перад Царквою й вокал яе.

3). Пры ахвярнай працы сяброў Парафіяльнае Рады й некаторых парафіян, паложаны цэмэнтовыя 4-ы ходнікі паміж магіламі на парафіяльным магільніку.

14-га лютага 1971 году адбыўся агульны гадавы Сход Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, на якім выбрана Парафіяльная Рада ў наступным складзе: Мікалай Войтанка — старшыня, Анна Лук'янчык — заступнік, Павал Беляец — заступнік, Васіль Русак, — сакратар, Аўгень Лысюк — скарбнік, Міхал Януш — стараста, Уладзімір Сьлюка — заст. старасты.

Папярэдняй Радзе й старшыні Віктару Дубягу выказана падзяка за руплівую й ахвярную працу.

# ВЯЛІКОДНАЯ ПАРА НА БЕЛАРУСІ

Вялікдзень на Беларусі прыпадае, звычайна, на час раньняй вясны, калі ўсё ажывае, адраджаецца, нараджаецца, рушыць да новага жыцьця.

Варочаюцца з выраю птушкі — гэтая аздоба краю і ўцеха чалавеку. Іхным галасістымі песьнямі, сьвістам, шчэбетам напаўняюцца лясы й гаі, палі й лугі, рэкі й вазёры. Бусла чакаюць, як жаданага гасьця. Перад ім дзеці й танцы спраўляюць. Пра яго й лягенды створаны. У сям'і народу беларускага ён нібы семянін.

Ажываюць глухія ўзімку балоты, вазёры — прылятае водная птаства: гусі, жураўлі, качкі, кнігі, бакасы ды розная дробязь. Балоты й вазёры поўняцца іхным гоманам, які не змаўкае да позьняй ночы.

А над вадою распускаюцца вербы, лозы й поўняць паветра водырам пахаў.

Распускаюцца й першыя веснавыя кветкі: пралескі, сон-кветкі ды



**Буслы. Прыляцелі на сваё гняздо.**



**Маладое алянятка схавалася, закрыўшыся чым Бог паслаў.**

шмат іншых. Хто пройдзе каля пралесак, ня спыніўшыся й не залюбаваўшыся імі? Сіненькія, як чыстае неба, яны выглядаюць з зямлі, нібы вочкі зямныя глядзяць у неба. І кажны, убачыўшы іх, затрымаецца залюбуецца й абдорыць іх ласкаваю ўсьмешкаю. Досыць шэры яшчэ бор убіраецца прыгожымі сонкветкамі, з пялёсткамі яскрава-фіялетавага колеру з сярэдзіны і з лёгкай шэранью звонку. Яны ўдзень падымаюць свае галоўкі-званочкі, раскрываюцца, нанач стульваюцца, сьпяць. Калі густа пакрыюцца імі лясныя пагоркі, яны так прыгожа красуюцца між лесу, так пасуюць колерам да наваколься, што мастаку цяжка намаляваць пэйзаж з такім разьмеркаваньнем фарбаў.

Мяшаныя-ж лясы паволі пачынаюць убірацца ў зелень.

А лугі, асабліва заліўныя лугі, калі веснавое разводзьдзе спадае, і з вады паказваюцца бутоны лотаці ды раскрываюць на сонцы свае жоўтыя пялёсткі, — нібы жоўтым дыванам акрываюцца па ўсіх узрэчных далінах ды цешаць зрок чалавека.



**Глушэц. На досьвітку ён узносіць свае сьпевы.**

Лясы! Гэта, мусіць, па іх Беларус найбольш сумуе на чужыне. У лесе свае законы бытаваньня. І там адраджаецца й нараджаецца новае жыцьцё Яно рухаецца, ўзрастае і ў глыбі лесу ў густых зарасьлях, дзе здаецца, абсалютная цішыня й спакой. Там нараджаюцца нявінныя лагодныя прыгажуны лясныя: ласяняткі, аляняткі, казяняткі.

Шматлікае й разнастайнае насельніцтва лясное, як разнастайнае й расьліннасьць у лесе. А колькі-ж птаства у ім! І які разнагалосы яго сьпеў! У мяшаных узьлесках можна выслухаць цэлыя канцэрты, ды яшчэ й якія канцэрты!

Прыгожы й багаты лес беларускі, — не знайсьці другога такога.

На палёх ужо яскравеюць зеленьню ланы маладога жыта а шэрая, агрэтая ўжо сонцам і асаблівым пахам пранятая роля, чакае на засеў. Угары-ж над палямі ўзносіцца розгалас птушынага сьпеву.

І, мусіць, нідзе не адчуваецца так дзеяньне вясны, як на Беларусі, дзе ўсё і усюды прыпамінае аб адраджэньні і ўздыме.

Азіраючы гэтае харaство й сілу веснавога адраджэньня, гэтую прыгожасьць Божага Сьвету, сумяшчаючы гэта з Сьвятам Хрыстовага Ўваскрошаньня, чалавек сам адраджаецца духова, лагаднее, поўніцца сьвятлейшымі надзеямі, сэрцам зьліжаецца да свайго Стварыцеля, Сьвята Вялікадня становіцца запраўды Сьвятам над Сьвятамі і Урачыстасьць над Урачыстасьцямі — **Вялікдзень.**

І мімаволі чалавек мысьленна ўздымаецца да Свайго Стварыцеля і ў малітвах узносіць Яму хвалу ўдзячнасьці.

Для Беларуса-селяніна Вялікдзень быў і натуральным новым годам. Ад гэтага часу селянін пачынаў сваю працу дзеля здабыцьця свайго хлеба штодзённага на цэлы год. І калі па Вялікадні выходзіў на поле з сявенькаю, ён у шчырасьці станавіўся на ральлі на калені й, хрысьцячыся, прамаўляў: „Зарадзі Божа, гэтую збажынку!"



**Маладыя зубры выйшлі на сонечную паляну папасвацца.**

# АЛЕСЬ ГАРУН



Мінула 50 год ад сьмерці аднаго з выдатнейшых нашых паэтаў Алеся Гаруна. Запраўднае прозьвішча ягонае Алесь Прушынскі.

Нарадзіўся ён ад бацькоў Валадзімера й Зоф'і 27-га лютага 1887-га году ў Менску ў сям'і чарнарабочага. Сям'я была вялікая. І хоць у Алеся змалку выявілася здольнасьць да навукі, то з-за беднасьці на адукацыю ня стаць было. Скончыў ён толькі пачатковую школу ў 1897 годзе, а потым — трохгадовую рамесьленую школу ў 1902 годзе ў Менску. З 16-х-гадовага ўзросту ўжо працаваў, як сталяр, у розных майстэрнях Менску. Адначасна рупна займаўся самаадукацыяй. Ужо як работнік улучыўся у барацьбу з самаўладзтвам, за волю народную. І за гэтую дзейнасьць быў у 1907 годзе арыштаваны, а ў 1908-м засуджаны на катаргу, якая пазьней была замененая на „вольнае пасяленьне" ў Сібіры. Невядома ў якім часе, але ў Сібіры Алесь Гарун спаткаўся з Язэпам Лёсікам, які таксама быў высланы на „вольнае пасяленьне" й жыў ля Кірэнску, у Іркуцкай губэрні. З высланьня ў Менск яны вярнуліся ў 1917 годзе, ужо нібы родныя браты, і адразу ўзяліся за беларускую грамадзкую працу.

Звычайна, аб Гаруну гаворыцца, як аб чалавеку маўклівым, тужлівым ды крыху й панурым. Да гэтага, бадай, спрычыніўся псэўдонім — Гарун. А — Гарун — таму, што гаротная доля спаткала яго. Алесь-жа Прушынскі, відаць, быў чалавекам бадзёрым і жыцьцярадасным. Ад Ванды Лявіцкай, што пазьней стала жонкай Язэпа Лёсіка, чулася пра Алеся Гаруна, як пра самага вясёлага з тых, што наведвалі рэдакцыю „Вольнае Беларусі", дзе была й кватэра рэдактара. Навучылася яна ад Алеся й сьпяваць песенькі сібірскіх дзяўчат, што сьпявалі на разьвітаньне, з сьмешным акцэнтам, мяняючы гукі сьвісьцячыя на шыпячыя й наадварот.

Як відаць, Алесь Гарун, вярнуўшыся дадому, узьняўся на духу й стаўся такім , якім ён урадзіўся. Нядоўга, аднак, гэта трывала. Жыцьцёвыя абставіны, загроза ўстанаўленьня праз бальшавікоў катаргі й на Беларусі, горшай за сібірскую, ды жыцьцёвыя турботы хутка гэты ўздым асадзілі. Бальшавікоў-жа й Гарун і Лёсік добра пазналі ў Сібіры й абзываліся аб іх, як аб элемэнце разбуральным, дэструкцыйным, дэзарганізуючым і апаганьваючым жыцьцё людзкое. Абодва затужылі, і Гарун усё радзей стаў паказвацца на людзях. Пазьней,на пытаньне — „чаму Гаруна рэдка калі ўбачыш", — Лёсік адказаў неахвоча: „Ён найболыш дома бывае; у яго старая нядужая матка, яе шануе й даглядае". Думаецца, што Лёсік тады не сказаў праўды. Напэўна ён ведаў пра хваробу Гаруна (сухоты). Найпраўдападобней, яна апанавала Гаруна ў Сібіры, а на той час была невылячальнаю, дый навет гаворак пра лекі ў той час ня чуваць было, — ня было дзе лячыцца. І Лёсік не хацеў пашыраць гэтае няпрыемнае весткі сярод людзей. А хвароба прагрэсавала.

Невядома, што больш спрычынілася да выезду Алеся Гаруна ў Польшчу: ці жаданьне лячыцца ў польскіх горных здраўніцах, ці ўцёкі ад бальшавікоў. Але доўга там не пажыў. Памёр 28-га ліпеня 1920 году й пахаваны ў Кракаве.

У літаратуры імя Алеся Гаруна ставіцца поруч зь імём Максіма Багдановіча. Падабенства ў іхнай творчасьці перадусім у красе іхнай паэзіі. Аднак, творчасьць Алеся Гаруна зусім самабытная. Гарун — паэт самародак. Гэта, як кажуць, косьць ад косьці, кроў ад крыві й душа ад душы народнай. І ягоная творчасьць найвыразьней нацыянальная і ў зьмесьце і ў форме.

Свае важнейшыя творы А. Гарун сабраў у зборнік „Матчын Дар", што можна было-б назваць і „Божы Дар". Уся ягоная творчасьць прасякнута шчыраю любасьцю да свайго роднага краю й народу. Блізу ў усіх творах прамяное жаданьне й кліч волі й змаганьня за волю. Для напісаньня сваіх твораў ён часта адкрадаў час супачынку або сну, запісваючы тое, што амаль уфармавалася пры рабоце.

Загасьне дзень, іду дамоў,  
Кладуся спаць, і ў ноч  
Цякуць радкі зьвінючых слоў,  
І сон адходзіць проч.

***

Як надарыцца мінюта,  
Што ад працы адарвуся,  
І жыцьцёвая атрута  
Не пячэць, і прахаплюся,  
Дык цябе, мой Родны Краю,  
Шчырай думкай аблятаю.

А як сонейка устане  
І прыемна усьміхнецца,  
Па палетках, на кургане,  
І па вёсцы разьліецца,  
Як паводка, — Родны Краю,  
Над цябе тады ня маю!...

Ты няшчасны і убогі,  
Ты бяздольны і забіты,  
Ты бяз шляху, без дарогі,  
Ты абдзёрты і прапіты,  
Подлай здрадаю прададзены,  
Ты ня свой, — даўно забраны.

Ты квяцісты, залацісты  
І прыгожы, і аздобны,  
Ты лясісты, каласісты, —  
Можа рай табе падобны.  
Колькі-ж моцы маеш скрытай,  
Колькі сілы неспажытай!

Меў вялікія кляйноты,  
Быў і моцны і багаты, —  
Задзіўляліся народы, —  
А дазнаўся горкай страты.  
Сохнеш, вянеш, — вокам кіну,  
Аж здаецца, што загінуў...

Ты паўстанеш, працавіты,  
Гаратнічы, нявымоўны,  
Шчасьця, долі прагавіты,  
Мой санэчны, мой чароўны!  
Будзе час, пабачаць сьветкі,  
Хоць ня мы, дык нашы дзеткі.

Фрамаваньне вершаў у Алеся Гаруна таксама сваістае. Калі Багдановіч стараўся вышукваць чыста народныя беларускія формы ды адшліфоўваць іх у сваіх творах, то ў Гаруна гэтыя формы выплывалі самі сабой, і іх найболыш у ягонай творчасьці, і яны зьвязаюць характвом і паэтычнасьцю. Для прыкладу вось пачатак вершу „Сын".

Гэй у чыстым полі ды ня сонца грэе,  
Ды ня сонца грэе, ды ня вецер вее,  
Ня туман спусьціўся,  
Ня дубок схіліўся, —

На шырокім полі, ды на тым прасторы,
Ля дарогі самай, на зялёным згоры
З ног дзяцюк зваліўся,
Бразнуўся, пабіўся.

У першыя гады йснаваньня бальшавізму дзе-хто з аглядчыкаў Гарунова творчасьці разглядаўся ў творах Гаруна, каб знайсьці ў іх супрацьрэлігійныя элемэнты, — гэта можа й для таго, каб ашукаць бальшавікоў ды прапусьціць творы у друк. Няўдзячная й дарэмная турбота! Ашуканству ў бальшавікоў толькі й вучыцца! Алесь Гарун быў добрым хрысьціянінам, і творчасьць ягоная ідэялягічна хрысьціянская. Цікавы пад гэтым паглядам верш ягоны „Малітва", які падаецца ў скароце

Маланак — слоў палючых —
Я бачыў: Сын Яго стаяў
На пушчы і маліўся,
І словы ў гневе прамаўляў,
А твар сьлязьмі абліўся.
— „Ах, дай мне, Войча, моцных слоў,
Зямля-б ад іх трaслася!
Баляць бо раны мае зноў,
І кроў зь іх палілася...
Пашлю тады маланкі ў люд,
Ў бясшчасны той, брадзіці,
Блішчэць, яскравець там і тут,
Праўдзівы гнеў будзіці.
Мільлёны кіну пяруноў
У тых, каго я знаю,
У тых, маю што сочаць кроў,
У тую чорну зграю.
Тады ізноў як колькі раз
На сьвеце ўжо бывала, —
Настане той вялікі час,
Твая засьвеціць хвала.
Малюся-ж, — дай мне гэтых слоў!
Сцаліш мяне, — паможаш.
Гарыць душа, баліць ізноў...
Вялікі! Дай, як можаш!"

Надзвычай цікава, ці словы гэтыя выплылі з самой душы Алеся Гаруна, ці напісаў іх пад уплывам Эвангельскіх слоў, слоў Самога Хрыста:

„Агонь прыйшоў Я спусьціць на зямлю, і як-бы Я жадаў, каб ён ужо запалаў!
Хрышчэньнем павінен Я хрысьціцца, і як Я балею, пакуль гэта станецца (Лук. 12, 49-50). Хрышчэньнем хрысьціцца тут разумеецца — крыжовымі пакутамі.

Бальшавікі налажылі запрэт на творы Алеся Гаруна. Хоць у сваіх творах ён нідзе не закрануў ні бальшавікоў ні бальшавізму — ён іх цураўся, — аднак, „чорную зграю" ды іншыя нялюдзкія праявы, супраць якіх паўстае Гарун, бальшавікі, бязумоўна, прымуць на свой рахунак. Бо што можа быць чарнейшае й горшае за іх людагубства? Кроў сьпечаная таксама становіцца чорнай.

У вершы ўступным да „Матчынага Дару" Гарун выказваў жаданьне пачуць з дзявочых вуснаў

Хаця-б адзін мой бедны сьпеў,
Хаця-б калі нібудзь.

Праўда, песьні свае з дзявочых вуснаў ён пачуў. Ад успомненай тут Ванды Лявіцкай і яе прыяцёлак, перадусім Паўлінкі Мядзёлкі, давялося чуць гэтыя сьпевы — мэлёдыі яны ўкладалі самі — і мэлёдыя песьні

На чужой староначчы
Занапаў душой,

з народных матываў, захавалася ў памяці. Вось дзіўна, і гэта сумна, што нашыя кампазытары не „знайшлі" прывабнасьці ў вершах Алеся Гаруна, каб палажыць некаторыя на музыку, якія самі на гэта просяцца.

Творчасьць Алеся Гаруна яшчэ чакае на дасьледчыкаў і на праўдзівую ацэну.

Падабенства ў Алеся Гаруна й Максіма Багдановіча выявілася ў іхнай творчасьці, было яно і ў іхным жыцьці й вызначылася ў іхным сконе. Абодва адыйшлі з жыцьця маладымі, абодва памерлі з тэй самай хваробы й абодва зглажылі свае косьці на чужыне: Багдановіч у Крыме, Гарун-Прушынскі ў Кракаве.

**М-ч.**

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

**Дарагія браты й сёстры ў Хрысьце!**

Калі Сьв. Жоны Міраносіцы даведаліся аб Уваскрошаньні Хрыстовым і прыбеглі да Апосталаў, то змаглі прамовіць толькі два словы: „ХРЫСТОС УВАСКРОС"! Гэтыя іхныя словы сталіся назаўсёды словамі прывітальнымі для хрысьціянаў у дзень гэтага Сьвята.

З Ласкі Божае мы дажылі і ў гэтым годзе да сьвяткаваньня Сьветлага Хрыстовага Ўваскрошаньня. Сьвята гэтае — найбольш радаснае Сьвята для хрысьціяніна. І гэта ёсьць найболыш радасная падзея ў гісторыі людзтва. Таямніца адкупленьня сьвету Крывёю Сына Божага — гэта найбольшы догмат хрысьціянскае веры. Сваім Уваскрошаньнем Сын Божы запэўніў нам усім перамогу над злом, над людзкімі грахамі, перамогу над сьмерцю, а гэтак сама агульнае нашае ўваскрашэньне й прышлае жыцьцё вечнае.

Наш Беларускі Народ называе гэтае сьвята — ВЯЛІКДЗЕНЬ, бо запраўды гэта Вялікі Дзень, і гэтым самым падкрэсьліваецца вялікае значэньне гэтага Сьвята. У Сьвятой Царкве ў гэты дзень сьпяваецца: „Нябёсы-ж няхай весяляцца й няхай радуецца зямля, і няхай сьвяткуе сьвет відомы й нявідомы, — бо Хрыстос Уваскрос, радасьць вечная".

Ужо дзяды й прадзеды, шануючы Сьв. Царкву й разумеючы патрэбу матар'яльнае падтрымкі для Царквы, ў часе Вялікодных Сьвят давалі падарунак Царкве з ахвяраў свае працы. Ідучы за прыкладам нашых бацькоў і дзядоў і тут на эміграцыі мы складаем падарунак ў форме грашовай.

Дарагія Браты й Сёстры!

Наслядуйма-ж і ў прышласьці гэты традыцыйны абавязак нашых бацькоў, а Ўваскросшы Хрыстос Бог наш няхай узнагародзіць усіх Вас Сваёю Ласкаю й Любоўю й дапаможа нашаму гаротнаму Народу й нашай Бацькаўшчыне якнайхутчэй вызваліцца з няволі, каб мы маглі славіць Уваскросшага Хрыста Спаса нашага ў Уваскросшай Беларусі нашай!

ХРЫСТОС УВАСКРОС — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень, 1971 году. **Епархіяльная Ўправа БАПЦарквы.**

## ЧАРГОВЫ ПОБЫТ ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

Яго Праасьвячэнства Епіскап Мікалай, апякун Сабору й Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне — Нью Ёрку, прыбыў у Нью Ёрк 28-га студзеня.

У нядзелю 31 студз. ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага Ўладыка Мікалай адслужыў архірэйскую Божую Службу ў суслужэньні айца Карпа, які поўніць абавязкі настаяцеля Сабору. Урачыстая Багаслужба адбылася пры збольшанай колькасьці парафіянаў. Айцец Карп, хоць мае паважную недагоднасьць з узгляду на месца свайго жыхарства, аддаленае ад Нью Ёрку на вялікую адлегласьць, дакладна й старанна праводзіць Божыя Службы й рупна дбае пра добры стан Царквы, з чаго Ўладыка быў задаволены.

У часе тыднёвага побыту Ўладыка Мікалай абыйшоў некаторых парафіян з Хрышчэнскай вадою, наведаў Парафію Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, дзе правёў нараду сьвятарства і меў спатканьне ў Баўнд Бруку з Мітрапалітам Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыкам Мсьціславам.

## НАРАДА СЬВЯТАРСТВА НЬЮЁРСКАЕ АКРУГІ

Выкарыстоўваючы нагоду прыезду Праасьвячэннага Епіскапа Мікалая ў Нью Ёрк, у панядзелак 1-га лютага сёлета адбылася нарада сьвятарства БАПЦарквы штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі. Нарада адбывалася ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. У нарадзе прынялі ўдзел: Уладыка Мікалай, а. Васіль Кендыш, а. Віктар Войтанка, а. Карп Стар. На нарадзе абмяркоўваліся розныя праблемы мясцовага парафіяльнага жыцьця. Разглядалася таксама справа адзначэньня 20-ці годняе дзейнасьці ў Парафіях, каторых юбілей прыпадае ў гэтым годзе. Выказана было пажаданьне выдаць спэцыяльны нумар парафіяльнага часапісу, прысьвечанага гэтым угодкам.

## СПАТКАНЬНЕ ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ З МІТРАПАЛІТАМ УАПЦарквы ВЫСОКАПРААСЬВЯЧЭНЬНЕЙШЫМ МСЬЦІСЛАВАМ

Карыстаючы з нагоды прыезду Уладыкі Мікалая ў Гайлэнд Парк 1-га лютага сёлета, стараньнем Настаяцеля Парафіі БАПЦ у Гайлэнд Парку а. Васіля было наладжана спатканьне Епіскапа Мікалая зь Яго Высокапраасьвячэнствам Мітрапалітам Мсьціславам. Спатканьне адбылося 2-га лютага, а першай гадзіне папаўдні, у будынку Кансысторыі Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Баўнд Брук у штаце Нью Джэрзі, дзе Ўладыка Мітрапаліт мае сваю сталую сядзібу.

Уладыка Мікалай пры асысьце сакратара Сабору Епіскапаў БАПЦарквы а. Васіля Кендыша, прыбыўшы на месца, быў спатканы кіраўнікам Кансысторыі прат. Міхайлам Землячэнка, які накіраваў гасьцей да пакояў Уладыкі Мітрапаліта. Уладыка Мітрапаліт спаткаў прадстаўнікоў БАПЦарквы на другім паверсе ў асысьце свайго сакратара а. Артэма Сілібана і па прывітаньні запрасіў у свой габінэт.

Знаёмства й гутаркі праходзілі ў прыязнай братэрскай атмасфэры. Размовы былі пра ўзаемныя суадносіны абедзьвюх сёстраў Цэркваў.

Па афіцыйным прыняцьці наведвальнікі былі запрошаныя й агледалі музэй і Царкву-Памятнік, пры суправодзе й інфармацыях прафэсара Паліводы.

Трэба спадзявацца, што суадносіны будуць паглыбляцца, і падобныя спатканьні Ерархаў абедзьвюх Цэркваў будуць праводзіцца й надалей.



## МАЛІТВА

Калі Бог выпраўляў Адама й Еву з раю, Адам плачучы зьвярнуўся да Бога з пытаньнем: „Госпадзе, ці-ж я ўжо ніколі не пабачу Цябе й больш гаварыць з Табою не пасьмею"? Бог зьмілаваўся над ім і сказаў: „Я дам табе слугу Майго, ты заўсёды зможаш паслаць да Мяне з просьбамі сваімі". І калі ўжо Адам быў за дзьвярыма раю, убачыў перад сабою сьветлую постаць і папытаўся — хто ты? — пачуў адказ: „Я ёсьць Малітва". І ад таго часу малітва й сталася пасланцом чалавека да Бога й пацехаю для першых Прайцоў чалавечага роду Адама й Евы, і была радасьцяй і надзеяй для Прайцоў: Аўрама, Ісака, Якуба і ўсіх старазапаветных прарокаў.

Гэткаю самаю засталася малітва для нас і цяпер, Ласкі Божае патрабуючых, бо і цяпер яна зьяўляецца Уцехаю, Надзеяй і Сілаю. Сам Госпад наш Ісус Хрыстос гэтак сама маліўся перад сваёю крыжоваю сьмерцю, каб зьявіўся Яму Ангел Божы й пацяшаў Яго, як Чалавека.

Праўда, можна вельмі часта пачуць скаргу людзей на тое, што іхныя малітвы да Госпада Бога не даюць ім належнае пацехі. Забываюцца гэтыя „вернікі" хрысьціяне, што словы малітвы, вымаўляныя толькі для праформы без пачуцьця, нібы бразгучка мядзяная, і што толькі запраўдная малітва прыносіць багаславеньне для душы. „Мовім усе ад усяе душы й ад усяго разуменьня нашага мовім" — гаворыцца ў Сьв. Літургіі. Госпад наш Ісус Хрыстос гэтак сама пацьвердзіў гэта гаворачы: „Дзеля гэтага й кажу вам: „Усё, чаго-б вы ні прасілі ў малітве, верце, што дастанеце й будзе вам" (Мар. XI, 24). Гэтыя словы й ёсьць адказам на нашыя малітвы, і мы павінны верыць Богу.

Сьвяты Апостал Якуб гаворыць: „Калі ў каго з вас нехапае мудрасьці, няхай просіць у Бога, які дае ўсім проста й без дакораў, — і будзе яму дадзена" (Як. 1, 5).

А ці-ж ня ў гэтым цяжар чалавека, калі сяньня ён верыць, а заўтра ахоплівае яго сумліў; ён нібы не пакідае надзеі, што Бог пачуе яго, але ня мае пэўнасьці ў веры, бо ахоплівае яго сумляваньне, а таму які-ж пазытыўны адказ можа мець гэткі малаверны ад Бога?

Што-ж яшчэ ёсьць на перашкодзе ў малітвах да Бога? — Гэта дух непрымірымасьці сярод вернікаў. Збавіцель наш сказаў „Калі стаіце на малітве, даруйце, калі што маеце на каго, каб і Айцец ваш Нябесны дараваў вам правіны вашыя. Калі-ж вы не даруеце, то і Айцец ваш Нябесны не даруе вам правінаў вашых". (Марк. XI, 25-26).

Злосьць супроць іншых — галоўная прычына, што на нашы

малітвы мы не атрымоўваем ад Госпада Бога адказу, якога чакаем. У сэрцы нашым захавана таемная нянавісьць, у выніку якое варожасьць між людзьмі існуе. І малітва аб дараваньні правінаў з нянавісьцю да іншых ня можа быць Богам прынятаю.

Вернікі хрысьціяне павінны зрабіць нешта вялікае для Бога й тады толькі чакаць нечага вялікага ад Бога.

Памілуй нас Божа ў вялікай Міласьці Тваёй, молімся Табе, выслухай нас і памілуй.

**✠ Архіепіскап Андрэй**

## ЧАМУ Я ВЕРУ Ў БОГА?

На гэтую тэму даў даклад у Таронта доктар —спэцыяліст ядзернае фізыкі — Барыс Дацэнка, ранейшы кіраўнік лябараторыі нуклеарнай фізыкі ў Кіеўскім унівэрсытэце, які ў часе адведзінаў Канады выбраў вольнасьць і атрымаў права пабыту ў Канадзе.

Абгрунтаваў свой даклад д-р Дацэнка на аснове выкрытага Ісакам Ньютонам закону гравітацыі, калі кажная рэч, кінутае ўверх, падае на зямлю з матэматычнаю дакладнасьцю. Але гэты закон фізыкі ня створаны чалавекам і не залежны ад яго. Гэты прыклад сьветчыць, што абстрактная ідэя кіруе матэрыяй. Усёю-ж Усяленнаю кіруюць дакладныя фізычныя законы, якія чалавек можа вынаходзіць і выкарыстоўваць, але ня можа ні стварыць, ні іх зьмяніць, аніануляваць.

Для чалавека немагчыма з няжывое прыроды здабыць жыцьцё. Нейкая вышэйшая сіла ёсьць крыніцай жыцьця. Хтосьці ўстанавіў сыстэму законаў, якія дзеюць з матэматычнаю дакладнасьцю ў часе й прасторы. З няжывое прыроды ня можна выдабыць жыцьця. Куча пяску можа ляжаць пяском і мільёны гадоў, але бяз ідэі, бяз сілы вонкавае яна ніколі ня зможа самаўпарадкавацца ў сымэтрычную будоўлю ці іншую акрэсьленую ўпарадкаваную форму.

Згодна трэцьцяга закону тэрмадынамікі матэрыя ня здольная самаўпарадкавацца. Гэтая дасканаласьць у структуры ўсясьвету й дакладнасьць яго дзеяньня, якое ані створана чалавекам, ані падуладнае зьменам подля волі чалавека, сьветчыць, што усяленнаю матэрыяй і намі кіруе якаясьці вышэйшая сіла, якая ёсьць тварцом першапарадку й крыніцаю жыцьця.

Доктар Дацэнка насьветліў хрысьціянскую ідэялёгію, як найпрыгажэйшую, наймаральнейшую й найсправядлівейшую рухомую сілу, якая аб'ядноўвае грамадзтва ў адну цэласьць, дапамагае яму ў змаганьні за самазахаваньне й спалучае яго з крыніцаю жыцьця, безь якога ня толькі ніякі поступ, але й самое існаваньне немагчымае.

Матар'ялізм, які пануе на ўсходзе, становіцца разьяднаўчым чыньнікам у грамадзтве, бо чалавек у дзяржаве ёсьць толькі знарадзьдзем для асягненьня мэты дзяржавы. Крайні матар'ялізм на захадзе таксама разьяднаўчы чыньнік. Ён вытварае культ гэданізму, — бачыць мэту жыцьця ў пагоні за асалодамі. А гэта руйнуе духовы стан чалавека й цэлага грамадзтва й зьніжае да роўні бязмоўнага тварэньня.

Сярод двух матар'ялістычных кірункаў усходу й захаду хрысьціянства ёсьць трэцьцім найпрыгажэйшым кірункам, вольнага выбару, дзе чалавек мае найцясьнейшае спалучэньне з крыніцаю сілы, якая ня толькі дала чалавеку жыцьцё, але і ўтрымоўвае яго пры жыцьці.

Калі-б тая сіла, — якою ёсьць Бог, — не падтрымоўвала жыцьця, напрыклад у нашым людзкім арганізьме, то наш арганізм мог-бы распасьціся на атамы адразу-ж пасьля нашага нараджэньня.

Запавет „Любі бліжняга твайго, як самога сябе (Мац. 22, 39) — ёсьць аб'яднаўчым чыньнікам у грамадзтве. Так, як кажны мастак — творца, любіць свой твор, гэтак і Тварэц Бог кіруе Ўсясьветам і намі, натхняе сыстэму Сваіх Законаў у жыцьцё любоўю. Бог кіруе любоўю.

Разуменьне „цьвярдыня" Д-р Дацэнка акрэсьліў, як сыстэму законаў, пры дапамозе якое Бог кіруе Ўсясьветам. І калі разумець „цьвярдыню", як устаноўлены Богам правапарадак, то гэты рэлігійна-містычны тэрмін будзе навукова апраўданым і зразумелым.

Быць хрысьціянінам — гэта значыць ня быць слугою матар'ялізму, а ўдасканальваць сябе праз самапазнаньне, праз мараль, любоў і ўзмацняць сябе праз беспасярэднюю лучнасьць з крыніцаю жыцьця".

Словамы — „Я веру ў Бога таму, што я жыву" — закончыў свой даклад Д-р Дацэнка. Паводля „Вісник", № 4, 1971 г.



*Высокапраасьвячэнных Ўладыкаў нашых*

*АРХІЕПІСКАПАЎ СЕРГІЯ И АНДРЭЯ*

*Праасьвячэннага ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ*

*Сьвячэньнікаў і дыяканаў, Дастойных Рэнтаў і Харыстых Хвальныя Парафіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы Навуковыя й грамадзкія Ўстановы, усіх вернікаў БАПЦарквы і ўвесь наш Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на выгнаньні Чытачаў „Голасу Царквы" — САРДЭЧНА ВІТАЕМ*

*З РАДАСНЫМ ХРЫСТОВЫМ УВАСКРОШАНЬНЕМ*

ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Епархіяльная Ўправа БАПЦарквы
на Амэрыку й Канаду.

## ПАДЗЯКА

Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы складае шчырую падзяку ўсым тым, якія праслалі сваю ахвяру ў Епархіяльную касу. Зьбіраньне ахвяраў на Епархію праводзіцца адзін раз у год. Мы зварочваемся з просьбай да тых, каторыя да гэтага часу не адгукнуліся на наш заклік, каб выпаўнілі свой абавязак падтрыманьня сваее роднае Царквы.

**Узнагарода сьвятароў БАПЦ.**

Сьвячэнны Сабор Епіскапаў БАПЦарквы на сваёй нарадзе дня 2-га лістапада 1970 году пастанавіў узьвесьці айца Яна Абабурка у сан Пратаерэя, і ўзнагародзіць а. Васіля Кендыша — камілаўкаю, а. Віктара Васілеўскага — набедранікам.

## ВАЖНЫ ЮБІЛЕЙ БАПЦАРКВЫ

У гэтым годзе споўніцца 680 год ад часу заснаваньня Беларускае Аўтакефальнае Мітраполіі ў Навагрудку у 1291 годзе.

За пару прыняцьця хрысьціянства нашымі продкамі прынята лічыць канец 10-га веку нашае эры. Ёсьць некаторыя дадзеныя на тое, што пранікненьне хрысьціянства на нашыя землі адбывалася й раней, а з канца першага тысячагодзьдзя і ў пачатку другога яно хутка пачало пашырацца.

Гістарычныя пісаныя акты, якія захаваліся ад 1000-годзьдзя, выразна аб гэтым гавораць. Гэтак у 987 годзе гаворыцца аб хрысьціянцы Рагнедзе-Анастасі й аб ейным сыне князю Ізяславу. Год 992 — аб самастойнасьці Полацкай Епархіі, успамінаючы аднаго з першых яе Епіскапаў Міну. На балонках летапісу знаходзім весткі аб Тураўскай Епархіі ў 1114 г., а ў 1137 ўжо існавала Смаленская Епархія. Валынскі летапіс з 1252 г. гаворыць, што адзін з магутных князёў Літоўскіх Вайшэлк, сын Вялікага Князя Міндоўга, зрокся свайго ўдзелу з гарадамі — Навагрудкам, Слонімам і Ваўкавыскам — і пастрыгся ў манахі, прымаючы імя Лаўрэнція. Напачатку быў у манастыры на Валыні, а потым на беразе Нёмана, недалека ад Навагрудка, заснаваў свой манастыр, які ад яго імя назваўся Лаўрышаўскім.

Успомненыя Епархіі і ўсе хрысьціянскія грамады ў тым часе кіраваліся самастойна, бо Канстантынопальская Патрыярхія, да якое яны належалі, у нутраныя справы адміністрацыйнага характару ня ўходзіла. Але калі Вялікае Княства з сваім дзяржаўным цэнтрам у Навагрудку ўзмоцнілася й сталася наймагутнейшаю дзяржаваю на ўсходзе Эўропы, то кіраўнікі дзяржавы, разумеючы якое вялікае значэньне мае вышэйшае рэлігійнае кіравецтва, як ў рэлігійным, гэтак і нацыянальна-палітычным жыцьці кажнага народу, пачалі імкнуцца стварыць у межах свае дзяржавы самастойную Праваслаўную Мітраполію. І ўжо за гаспадараньня князя Віценя ў 1291 годзе была заснаваная незалежная Літоўская Мітраполія*).

Першым Мітрапалітам Навагрудзкім і ўсяе Русі Літоўскай, Канстантынопальскі Патрыярх прызначыў Тэафіла-Грэка, ,а Імпэратар Бізантыйскі Андронік Старэйшы зацьвердзіў Навагрудзкую Аўтакефальную Праваслаўную Мітраполію, даючы ёй 82-ое месца ў Патрыяршай Радзе. Але аб гэтым нашыя „апякуны" пішучы гісторыю, стараліся як найменш успамінаць а ў бальшыні выпадкаў стараліся нішчыць усе нашыя культурныя памятнікі й дакуманты, тым больш царкоўныя.

Але вялікая праца нашых продкаў заслугоўвае на тое, каб мы, азброіўшыся цярплівасьцю, павышуквалі й паказалі нашым суродзічам слаўную дзейнасьць нашых продкаў.

У Патрыяршых актах запісана, што ў 1329 годзе прымаў удзел на Саборы ў Канстантынопалі Літоўскі Мітрапаліт Тэафіл. А гэта сьветчыць аб тым, што першым Мітрапалітам Літоўскім быў тойжа Тэафіл, пасьвячаны Канстантынопальскім Патрыярхам з духавенства грэцкага.

Шмат фарктаў сьветчаць пра тое, што Беларуская Аўтакефальная Мітраполія мела вялікае значэньне як для тагачаснае Вяліка-Літоўскае дзяржавы, так і для ўсяго нашага народу й была ведамаю ўва ўсім цывілізаваным сьвеце.

Дзеля гэтага, мы, нашчадкі слаўных нашых продкаў, зьяўляючыся прадаўжальнікамі іхнага ідэалу ў рэлігійным жыцьці, — а нашая Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на Экзылі есьць спадкаемніцай Навагрудзкае Мітраполіі, — павінны ўрачыста адзначыць Юбілейныя 680-я ўгодкі Навагрудзкае Аўтакефальнае Мітраполіі.

Юбілей гэты трэба лічыць вялікім гістарычным актам усяго Беларускага Народу, а таму сьвяткаваньне павінна прыняць форму ўсеагульнага характару. Паколькі беларускія парафіі існуюць ўва ўсіх краінах вольнага сьвету, неабходна зрабіць ўсе захады, каб ўсе яны незалежна ад юрысдыкцыяў і груповых перакананьняў, і ўсё беларускае грамадзтва прыняло чынны ўдзел у гэтым важным гістарычна-рэлігійным Юбілеі, а ўрачыстасьці сталіся запраўдным Беларускім Сьвятам.

---

Трэба адцеміць, што тэрмін — Літоўскі (ая, ае) — адносіўся як да тэрыторыі, заселенай Беларусамі, так і да назову народу Беларускага. Гэта відочна і з тытулу Вялікага Князя — Вялікі Князь Літоўскі, Рускі, Жамойцкі і іншых". „Літоўскі" адносілася да тэрыторыяў, заселеных Беларусамі, „Рускі" да тэрыторыі, заселенай Украінцамі „Жамойцкі" да тэрыторыі, заселенай Летувіскімі пляменьнямі — Жамойць і іншыя. Яшчэ за нашую памяць Беларусаў, якія выяжджалі на працу ў цэнтральныя маскоўскія губэрні, расейцы звалі Літвінамі.

**З АЎСТРАЛІІ**

## ГОЛАС ЗАСЬЦЯРОГІ

Разглядаючы асягненьні й недахопы ў нашым рэлігійным і грамадзкім жыцьці, часта паўстае пытаньне, што зьяўляецца прычынаю духовага крызысу шматлікіх людзей. Узгодніць нашае жыцьцё з жыцьцём верных Богу, — гэта неабходная й канечная вымога нашых часаў. Існаваньне разьбежнасьцяў паміж прынцыпамі веры, якую вызнаём, і нашым жыцьцём — гэта факт.

Гэтая разьбежнасьць такая вялікая й глыбокая, што яна часта ствараe раздваеньне асобы — раздваеньне чалавека; двуаблічча яе — гэта тэорыя й практыка, якія самі сабе супярэчаць. Ніхто ня можа запярэчыць, што мы хрысьціянская грамада. Вось-жа, Хрыстос, а ў асноўным Ягоная навука павінны мець уплывы на фармаваньне нашай маралі. У запраў-

днасьці-ж існуючы матар'ялізм часта прасякае нас. І таму мы, хрысьціяне, жывём не пахрысьціянску. У выніку такога аддзяленьня ці адсэпараваньня ад веры, ад жыцьця рэлігійнага мы маем шмат разьбежнасьцяў паміж хрысьціянамі, як у пытаньні рэлігійным, гэтак і грамадзкім. Прыналежнасьць да хрысьціянскае супольнасьці з нявыразнымі рэлігійнымі перакананьнямі не запярэчваецца, але ў практыцы гэткая асоба з хрысьціянскім жыцьцём ня мае нічога супольнага. І такая асоба — чалавек — часта навет ганарыцца такімі сваімі паглядамі. Мы да падобных разьбежнасьцяў так ужо прывыклі, так прызвычаіліся, што можам намагацца ўзгадоўваць нашую моладзь згодна з найбольш ідэялістычным лёзунгам „БОГ І БАЦЬКАЎШЧЫНА", ня кіруючыся самі гэтым лезунгам. Навет можам належаць да царкоўных арганізацыяў і царкву наведаць раз ці два на год (а ёсьць жа й такія, што ходзяць толькі „да" царквы, а не у царкву.). Можам заклікаць да ўзаемнай любові, пашаны й павагі, а ў сэрцы трымаць нянавісьць і пагарду да свайго суродзіча й навет да свайго брата. Можам падтрымоўваць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву й ў той-жа самы час не шанаваць Яе. Можам гутарыць пра камуністычны атэізм і пра прасьлядаваньне рэлігіі на Бацькаўшчыне, і ў тым самым часе не практыкаваць і ня выконваць хрысьціянскіх абавязкаў. Можам навет самі сабе верыць, што мы вылучныя выбраныя быць грамадзкімі кіраўнікамі й не зважаць на свае памылкі й нехрысьціянскія ўчынкі.

Трэба стаць перад абліччам фактаў адважна й шчыра ды прыглядзецца да іх. Прыгледзецца да нашага прыватнага жыцьця, сямейнага, грамадзкага, арганізацыйнага й царкоўнага, і параўнаць яго з асновамі хрысьціянскае маралі, пасьлядоўнасьці, і пазнаем, як мала ў нас хрысьціянскасьці.

Замала верыць, замала ведаць асновы хрысьціянства, замала іх вызнаваць, замала быць патрыётам-прамоўцам, ці настаўнікам, а трэба практыкаваць хрысьціянскую навуку ў штодзённым жыцьці, прыстасаваць, дапасаваць да нашых нацыянальных і рэлігійных асноваў і абставінаў, да мэтакіраўніцтва Божага й нацыянальнага. І звычайна толькі тады, з пэўнай мэтай кіраваньня й з пасьлядоўнасьцяй можам стацца рэальнымі запраўднымі хрысьціянамі. Тады ня будзе ў нас разьбежнасьці, тады будзем добрымі сынамі свайго народу, добрымі хрысьціянамі й добрымі братамі-суродзічамі ў сваёй грамадзе. Калі-ж наш патрыятызм будзем трымаць толькі для паказу, а нашая праваслаўная вера застанецца ў нашым жыцьці толькі нейкаю арганізацыйнаю прыбудоўкаю — ня будзе з гэтага ніякае карысьці ні нам, ні нашаму грамадзтву, ні будучаму нашаму пакаленьню, і нявыхаваная нашая моладзь, аб якой шмат гаворыцца й пішацца на балонках прэсы, будзе згубленаю. **А.**

# ХРОНІКА

У нядзелю 10 студзеня сёлета, пасьля Багаслужбы, ў царкоўнай залі захадамі Парафіяльнае Рады Парафіі сьв. Антона, Яна і Еўстафа была наладжана ялінка для беларускіх дзяцей. Сабралася больш як трыццаць дзяцей, якіх Сьв. Мікалай абдарыў падарункамі: марожаным, цукеркамі й ліманадай.

У гэтым годзе, як і ў папярэдніх гадох, пасьля Богазьяўленьня а. Аляксандар наведаў дамы нашых суродзічаў у Мэльбурне з Йарданскаю вадою. З прыемнасьцю трэба адзначыць, што ў бальшыні нашыя суродзічы добра памятуюць багатыя традыцыі й звычаі, а таму вельмі міла віталі свайго Настаяцеля ў часе наведваньня й выкананьня гэтага чыну. Шчырая падзяка належыць царкоўнаму старасту брату Аўгену Дзімітру, які дапамагаў Настаяцелю.

***

Нядзеля 28-га лютага ў Аўстраліі ўважаецца „Нядзеляю Эмігранта". З гэтае нагоды пасьля Багаслужбы а. Прат. Аляксандар, Настаяцель Парафіі ў Мэльбурне, прачытаў ліст надасланы Міністрам Эміграцыі ў Аўстраліі (Піліп Лынч), ў якім ён вітае Беларусаў і складае нам найлепшыя пажаданьні ў рэлігійным, грамадзкім і сямейным жыцьці.

***

Дня 31-га студзеня сёлета а. Прат. Аляксандар ахрысьціў Кацярыну, дачку Мікалая й Ірэны Басарановіч, а дня 7-га лютага адбыліся ўводзіны ў царкву. Няхай Усемагутны абдорыць яе добрым здароўем, каб хутка расла на пацеху й радасьць бацьком, на Славу Богу й карысьць і гонар Беларускаму Народу.

***

Дня 26 сьнежня 1970 году неспадзявана адышоў у вечнасьць св. пам. Юры Федаровіч, пражыўшы 46 гадоў, а зь іх 21 год ў Аўстраліі. Пакойны належаў да парафіянаў БАПЦарквы, у меру магчымасьці аказваў маральную й матар'яльную дапамогу для парафіі. Вечная яму памяць!

Чын паховінаў выканаў а. Прат. Аляксандар дня 30. XII. 1970 г.

***

Дня 24. I.. 1971 году адыйшла ў вечнасьць сьв. пам. Акуліна Груша. Пражыла яна 80 год. Ад пачатку заснаваньня парафіі БАПЦ ў Мэльбурне й да сьмерці была актыўнаю парафіянкаю. Ня гледзячы на старасьць не апускала ніводнае Багаслужбы, была сталаю харысткаю царкоўнага хору, дбала рупна пра дабро Царквы, як скарб Беларускаго Народу.

Дня 27 студзеня, незважаючы, што гэта быў працоўны дзень і нязносная сьпякота, на паховінах прысутнічала каля 100 асоб. Пахаваная на беларускім магільніку на Фаўнкнэр, ў Мэльбурне. Чын паховінаў выконваў а. Аляксандар.

**З дзейнасьці Парафіі БАПЦарквы ў Кліўлендзе.**

Дзякуючы гарманійнаму супрацоўніцтву Настаяцеля з Прычтам і Царкоўнаю Радаю, Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, як у нутраным жыцьці, гэтак і рэпрэзэнтацыйным навонкі за час свайго кіраваньня выканала ўсе пастановы Агульнага Сходу, і сваёю штодзённаю ахвярнаю працаю спрычынілася да парадку ў Парафіі й павялічыла фінансавыя рэсурсы.

Сябры Парафіі праводзілі й рэпрэзэнтацыйную дзейнасьць між іншанацыянальных парафіяў; былі выезды Настаяцеля Парафіі і сяброў Парафіяльнае Рады ў Нью Ёрк, Нью Джэрзі і ў Канаду, удзел у нарадах прадстаўнікоў праваслаўных парафіяў у Кліўлендзе.

Асаблівая ўвага была зьвернена на ўтрыманьне належнага парадку ў Царкве, у парафіяльным доме й на парафіяльным пляцы. Зроблена аднаўленьне Алтара й памаляваньне рынаў і трубаў звонку Царквы, унутры й звонку парафіяльнага дому быў праведзены належны рамонт, памаляваны ўсе пакоі, дзьверы й вокны й пабудавана новая страха на доме. Выканана заліўка для забясьпячэньня сырасьці ў царкоўнай залі. Ўсю працу выконвалі самі сябры Царкоўнае Рады.

Культурна-асьветная праца праводзілася пераважна праз чытаньне рэфаратаў і дакладаў, што адбывалася амаль на кажнай імпрэзе, да якіх трэба залічыць: Вялікапосны супольны абед 19-га красавіка, супольнае сьвяткаваньне Калядаў, рэфэрат на дзень Маці — 10-га мая, Парафіяльнае Сьвята ў спалучэньні з 500-мі ўгодкамі Аб'яўленьня Жыровіцкае Божае Маці, — 24-га мая, парафіяльны пікнік, 23-га жніўня, Дзень Удзячнасьці, 22-га лістапада, Ялінка для дзяцей, 10-га студзеня. Дня 17-га студзеня 1971 году Парафіяльная Рада зарганізавала ўрачысты юбілей для ўшанаваньня 22-х гадоў службы Богу й Беларускаму Народу паважанага Пратадыякана Калістрата Савіцкага, які на 83 годзе свайго жыцьця адыходзіць на пакой.

У гэтым-жа самым часе адбылося й прыняцьце для харыстых царкоўнага хору. Архіепіскап Андрэй, вітаючы харыстых, адцеміў вялікае значэньне сьпеву рэлігійнага й сьвецкага й вялікую прыслугу хору Царкве й грамадзтву. Была выказана падзяка й рэгенту хору К. Кісламу, які на працягу 15 гадоў сумленна й дабрачынна кіруе хорам.

У той-жа самы дзень адбылася й трэйцяя урачыстасьць — Каляднае й Навагодняе сьвяткаваньне.

**Урачыстасьць Праваслаўя.**

У нядзелю 7-га сакавіка сёлета ў Кліўлендзе адбылася важная рэлігійная ўрачыстасьць.

Ужо на працягу 10-ці гадоў Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе прымае чынны ўдзел у ўрачыстым адзначэньні Дня Перамогі Праваслаўя над Іканаборствам. Сьвяткаваньні гэтае вялікае хрысьціянскае падзеі адбываюцца штогод ў першую надзелю Вялікага Посту.

Згодна дамоўленасьці між Настаяцелямі парафіяў БАПЦарквы, Украінскае Праваслаўнае Царквы й Сэрбскае Праваслаўнае Царквы, урачыстасьці адбываюцца пачарзе ў царкве кожнае з вымененых нацыянальнасьцяў.

У гэтым годзе асабліва ўрачыста адбывалася Багаслужба ў Сэрбскай Царкве Сьв. Савы. Багаслужбу ўзначальвалі два Архіепіскапы: Уладыка Андрэй ад БАПЦарквы і Уладыка Ірыней ад Сэрбскае Праваслаўнае Царквы. Суслужвалі ім чатыры сэрбскія й два украінскія сьвячэньнікі.

Асаблівы маліцьвены настрой для вернікаў надаваў хор БАПЦарквы — Кліўлендзкае Парафіі пад умелым кіравецтвам дырыгента сп. Канстантына Кіслага.

Зьмястоўнае казаньне на тэму сьвяткаваньня сказаў Уладыка Ірыней у ангельскай мове.

Пасьля Багаслужбы Парафіяльная Рада Сэрбскае парафіі запрасіла духавенства й харыстых на пачастунак. Перад спажываньнем вячэры Беларускі хор прасьпяваў малітву „Ойча наш", а Уладыка Андрэй славасьвяціў ежу.

Застольная бяседа праходзіла ў мілым і сардэчным настроі.

***

Дня 28-га лютага 1971 году адбыўся Агульны Перавыбарчы Сход Парафіяльнае Рады Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. У склад новавыбранае Рады ўвайшлі: Бруцкі Янка — Старшыня, Стрэчань Андрэй — Заступнік, Гасьцееў Юрка — Сакратар, Гумен Мікола — Скарбнік, Міраеўскі Аляксей, Каляда Клаўдзя, Семянчук Васіль — Сябры, Пэнда Мікола — Царкоўны Стараста. У Рэвізійную Камісію выбраны: Семянчук Аўген, Карпінскі Ян, Дварэцкі Пётра.



***

У сыботу 20-га лютага сёлета ў БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе адбыўся шлюб Анатоля Патапенка й Ларыты Фрост. Абрад шлюбу ў ангельскай мове выканаў Архіепіскап Андрэй у суслужэньні дыякана Міхася Страпко, з удзелам царкоўнага хору пад кіравецтвам рэгента К. Кіслага.

Гэта быў першы шлюб у Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе маладога пакаленьня ўзгадаванага на амэрыканскай зямлі. Сужонак Анатоль Патапенка — студэнт Калюмбскага Ўнівэрсытэту, а Ларыта пасьля двухгадовага наведаньня Калэджу працуе ў бюры.

Як у Царкве ў часе выкананьня шлюбу, гэтак і на вясельным прыняцьці брала ўдзел больш 250 асоб.

***

У 1967 г. у Ленінградзе адбылася нарада каталіцкіх і праваслаўных сьвятароў у справе ролі хрысьціян у развіцьці грамадзтва. Цяпер у Бары адбыўся працяг гэтае нарады, па заканчэньні якое мітр. Нікадым з чатырма удзельнікамі нарады быў прыняты Папам Паўлам 6-ым у Рыме на прыватнай аўдыенцыі.

***

Згодна спраўджаных вестак з Аўстраліі, Экзарх Усяленскага Патрыярха Езакііль усіх сьвятароў якіх рукапалагаў Уладыка Сергій, прымае да свае юрысдыкцыі бяз усякіх засьцярогаў у кананічнасьці, не вымагаючы паўторнага рукапалажэньня.

***

Каталікі ў Грэцыі (іх там 46 тысяч) маюць намер ў гэтым годзе сьвяткаваць Вялікдзень паводля старога каляндарнага стылю разам з праваслаўнымі, і чакаюць толькі на пазытыўны адказ Папы.

***

Згодна вестак, якіі, паходзяць з кіраўнічых колаў Праваслаўнае Царквы ў Саветах, на становішча Патрыярха Маскоўскае Патрыярхіі будзе выбраны Мітрапаліт Нікадым Ротов. Нікадыму споўнілася 40 гадоў. Яго ўважаюць першым кандыдатам Маскоўскае Патрыярхіі ды яе „міністрам замежных спраў". Ён вельмі часта езьдзіць па сьвеце ў справах царкоўных і ўсюды бярэ ўдзел у дыскусіях у справе міру. Думаюць, што савецкі ўрад на яго кандыдатуру пагодзіцца з задаваленьнем.

Заступнік памёршага Патрыярха Аляксея — Мітрапаліт Пімен сказаў карэспандэнтам, што чатырохдзённы Сабор адбудзецца ў Загорскім манастыры, — 50 міляў ад Масквы. Інтранізацыя Патрыярха адбудзецца ў апошні дзень Сабору, 3-га чэрвеня 1971 году.

***

„Нэшэнэл Католік Рэджыстэр" з 31 студзеня сёлета, перадае меркаваньне аднаго вядомага езуіта, аўтара шматлікіх кнігаў, Траффорда Мэір (Maher) аб сучасным стане СССР. Ён праракуе ў самай блізкай будучыні рэвалюцыю, выкліканую матарыяльнымі цяжкасьцямі, асабліва выключнай дарагавізнай рэчаў першае патрэбы, адсутнасьцяй персанальнае ініцыятывы й асабістае свабоды, а галоўнае — адсутнасьцю любові, як у школе, а таксама ў грамадзкім жыцьці. Чым больш інфармацыі атрымоўваюць савецкія людзі аб жыцьці на Захадзе, тым большае расьце незадаваленьне, якое ўсьцяж згушчаецца й насьпявае масовае абурэньне.

***

З першага студзеня сёлета ў Каталіцкай Царкве ўвайшоў у сілу новы закон, згодна якога Кардыналы ў веку 80 гадоў і старэйшыя ня будуць мець права браць удзел у выбарах Папы.

**Цана 1 даляр**

**Дарагія Браты й Сёстры!**

Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква адзіная незалежная Беларуская Царква, якая мае сваё кананічнае Епіскапскае кіравецтва.

Даўгавяковая залежнасьць беларускага народу ад маскоўскага царкоўнага кіравецтва пакінула свой псыхалягічны сьлед, і таму сяньня ў вольным сьвеце й тут у Амэрыцы многія тысячы беларускіх эмігрантаў належаць да чужых праваслаўных Цэркваў, пераважна — расейскай.

Сваею працаю й ахвярнасьцю нашыя суродзічы набудавалі шмат прыгожых сьвятыняў, якія сяньня становяць уласнасьць чужое царкоўнае юрысдыкцыі.

Новая беларуская эміграцыя, а ў першую чаргу яе нацыянальна сьведамая частка, з Божаю дапамогаю аднавіла сваю родную Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, і сяньня мы ўжо можам цешыцца вынікамі нашае працы й здабыткамі.

Але каб праца на роднай царкоўнай ніве была больш эфэктоўная й шырэйшая, на гэта патрэбная ўсебаковая дапамога ўсяе нашае эміграцыі. Усе мы павінны пачувацца да маральнае й матарыяльнае падтрымкі свае нацыянальнае БАПЦ.

Епархіяльная Управа Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Аамэрыку й Канаду сардэчна заклікае й Вас асабіста дапамагчы нам у павялічэньні сяродкаў БАПЦ на такія важныя патрэбы, як: 1) падрыхтова й павялічэньне ліку духавенства, 2) місыйная дзейнасьць, 3) арганізацыя новых парафіяў, 4) пашырэньне выдавецкае дзейнасьці й інфармацыі, 5) скліканьне Сабору БАПЦ і іншыя неабходныя патрэбы. Ахвяры зьбіраюцца адзін раз у год.

Заменім-жа частку нашага матарыяльнага дабра на славу Божую, а Госпад Міласэрдны ўзнагародзіць нас стокротна.

**Епархіяльная Управа БАПЦ**
**на Амэрыку й Канаду**

**Ахвяры просім перасылаць на адрэс:**

Rev. Vasil Kendysh
73 Narragansett Street
Springfield, Mass. 01107

---

**ПАПРАЎКА**

У папярэднім, 32-м нумары, Голасу Царквы, у пасьмертным успаміне Сьв. Памяці Архіепіскапа Васіля, у даце сьмерці памылкова пастаўлена лічба 6 замест 9. Праўдзівая дата — 9-га чырвеня.